STUDENCKAJA DUMKA

Заснавана ў 1924 г.
№ 2 травень 1997 г.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА

Эпіграф нумару:
**Весяліся юнак у юнацтве сваім.**
Кніга Экклезіяста

# З узвышша...

*На вуліцах горада зьявіліся танкі.*

*Агромістая колькасьць чалавечай массы, апранутай у вайсковае, мітусілася на падыходах да плошчы, дзе дзесяткі тысячаў цывільных людзей ледзь-ледзь стрымліваліся міліцыянтамі.*

*Мы зь сябруком выйшлі з кавярні, што месьцілася непадалёк. Я кінуў у бок натоўпу:*

*— Гадкоў пяць таму я быў бы там!*

*— Чаму ж зараз ня йдзеш? — запытаў сябра і хмура пасьміхнуўся.*

*— Час ня той, дый я пастарў, здароў'е і нэрвы даражэй!*

*— Сапраўды... Цікавей было жыць калі былі маладзейшымі... Міліцыянты, гумовыя дубінкі, пажарныя вадалівы, сутычкі...— сябра дастаў з кішэні пачак танных цыгарак, пакруціў іх у руках і кінуў у замызганую сьметніцу.*

*— Я калі-нікалі разважаю..., мо мы тады памыляліся? Цяперака ж разумееш, што ўсе тыя гульні — брудныя. Сёньня народ падымаецца на покліч адных, заўтра іншых... відаць нямашака на сьвеце праўдзівых лідараў, дбаючых пра гэты натоўп.*

*Сябра глянуў мне ў вочы.*

*— А ты разуверавconfigў у сваім народзе!*

*— Мо ты, хіба, яшчэ ў нешта верыш? То чаму ж зараз ты тутака? Ідзі, паспрабуй распавесьці ім праўду. Ведаеш жа шмат і лічыш сябе разумнейшым...*

*Мой сябра плюнуў сабе пад ногі.*

*— Сёньня я ўжо не вар'ят. Лепш бачыць гэта ўсё аднекуль збоку.*

*Мы падняліся на старажытнае, гістарычнае ўзвышша...*

*Са зброяй у руках войска рушыла роўнымі шыхтамі на плошчу. Натоўп зароў, у паветра ўзьняліся плякаты, вялізную колькасьць сьцягоў матляў над галовамі людзей вецер. Зайграў аркестар.*

*Я памахаў рукой з трыбуны, вітаючся з натоўпам. пачынаўся вайсковы парад у гонар нашай перамогі над тыранам.*

*Сябрук крыху павярнуў твар, да мяне, ад тэлекамэраў і прамовіў:*

*— Людзям заўсёды патрэбны моцныя лідары...*

*Русдан Равяка (Баранавічы)*

*Ганарар, па просьбе аўтара, пералічаны у «фонд падтрымкі працоўных Ганалулы»*

# Калі ты ня йдзеш у палітыку, то палітыка прыдзе да цябе

Праўду сказаў класік: "Маладосьць — лепшая пара чалавечага жыцьця". А я дадам, што студэнцкая пара — найлепшая пара маладосьці. Здаецца радуйся жыцьцю ды плюй на астатняе.

І ў гэтую пару шмат хто з нас 18-24 гадовых замест бясьпечных забаваў "ідзе ў палітыку": арганізуе працу нефармальных груповак, удзельнічае ў акцыях пратэсту, нават сядзіць "свае" 5-10 сутак. Узьнікае натуральнае пытаньне "Дзеля чаго?".

Давайце паспрабуем разабрацца. Сапраўды, чаму б проста не бавіць час замест таго каб рызыкаваць сваім сёняшнім становішчам і бліжэйшымі пэрспрэктывамі. Ці не прасьцей жыць па прынцыпу "мая хата з краю"? Але ж, калі ўдумацца, то зразумеем, што не прасьцей! Бо сёньня калі ты ня йдзеш у палітыку, то палітыка прыходзіць да цябе. А інача і быць ня можа. Паколькі наш "усенароднаабраны" адраджае савок, то сама сабою ўзьнікае галоўная задача маладзёвай дзяржаўнай палітыкі: выхаваць маладых людзей паслухмянымі "вінцікамі" ці, у лепшым выпадку, кар'ерыстамі, што йдуць да чарговае пасада "па трупах". Усё здаецца цудоўна, далібог што дэмакратыі". Мы ўжо не "саўкі", ня вінцікі. І станавіцца імі няма ніякага жаданьня. А таму, калі паглядзець на нас з пункту гледжаньня уладаў да маладых "лукомольцев", то сама сабой напрошваецца выснова: гэтае пакаленьне (то біш мы) мусіць нават пад прымусам стаць самым забітым і зашуганым з усіх ці яно не павінна існаваць увогуле. Бо ня ведаю як сярэдневечную, але ж найноўшую гісторыю нашыя "уладары памятаюць". І яны ніколі не забудуцца на тое, што СССР ляснуўся шмат у чым дзякуючы недадушанаму пакаленьню "шасьцідзесятнікаў". Мы, іхныя дзеці, студэнты пачатку 90-х папросту занадта небясьпечныя, бо як казаў дзядуля Ленін: "Мы — не рабы! Рабы — не мы!". Але ў адрозьненьні ад пралетарыята 1917 г., мы акрамя камянёў маем яшчэ адну куды больш моцную зброю — веды



• Мы выйдзем шчыльнымі радамі



• Мая міліцыя мяне беражэ: спярша павінцціць, пасьля -- сьцеражэ!

савецкую камсамольскую спадчыну не забылі. А калі дадаць гісторыю Нямеччыны 1933-1945 г.г., то можна толькі парадавацца багацьцю мэтадычнага матарыялу. Менавіта на гэтай спадчыне прарастаюць ўсялякія "Прамыя дзействія" ды БПСМы. Здаецца працуй, выхоўвай моладзь дзеля будучыні.

Але ж ёсьць адзін чыньнік, дзякуючы якому будучыня ў гэтых псэўдаграмадзкіх арганізацыяў далёка ня лепшая. Гэта — мы, моладзь, студэнты "пары незалежнасьці й інтэлект! А які таталітарны рэжым дабраахвотна надкладзе над сабе такую міну замаруджанага дзеяньня!?

У сувязі з вышэйузгаданым цалкам натуральнымі й прадказальнымі бачацца жорсткасьць і рэпрэсіі супраць студэнтаў, што выходзілі на вуліцы гэтаю вясною. І можна прадказаць што сытуацыя яшчэ пагоршыцца. І, што самае горшае — ты не здолееш адседзецца, бо ты небясьпечны ўжо тым, што думаеш самастойна. Таму пастарайся зразумець, што маладыя людзі, якія змагаюцца з рэжымам на самой справе змагаюцца ня толькі й ня столькі за свае метэрыяльныя інтарэсы ці "па прыколу". Пытаньне стаіць аб выжываньні нашага пакаленьня як супольнасьці СВАБОДНЫХ ЛЮДЗЕЙ. А свабодныя людзі могуць спакойна й заможна жыць толькі ў СВАБОДНАЙ І НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВЕ. Таму цяперашнія беларускія падзеі — ня нейкая палітычная вазьня, а ў першую чаргу змаганьне нашага пакаленьня за сваё ЖЫЦЬЦЁ Й БУДУЧЫНЮ.

На заканчэньне ж хочаца пераказаць вам адну цікавую фразу, якая была вымаўлена ў пачатку стагоддзя: "Калі прыйшлі па сацыялістаў я маўчаў — я не сацыяліст. Калі прыйшлі па манархістаў я маўчаў — я не манархіст. Калі арыштоўвалі дэмакратаў ды растрэльвалі анархістаў я маўчаў — я ж не дэмакрат і не анархіст. Калі пачалі выразаць інтэлігенцыю, я маўчаў, бо я не інтэлігент. Калі ж прыйшлі па мяне, у краіне не засталося анікога, хто мог бы сказаць слова ў маю абарону."

Будзьма маўчаць?...

*Ігар Тышкевіч*



• Да гэтага апэратара на вуліцах Менску ўжо прызвычаіліся. Моладзь даволі хутка ахрысьціла яго рабакопам.

## Naviny adnym radkom...

***Грыземся-с? Ну-ну...***

Напярэдадні устаноўчага сходу "Лукамола" (БПСМ) адбыўся скандал. Галоўнага маладога прыхільніка "прэзыдэнта" т. Янчэўскага выключылі з [illegible] арганізацыі "Прамое дзеяньне". Прычым, адразу па выключэньні пачалася грызьня паміж былым "фюрэрам" ПД і рэшткамі гэтай "слыннай" арганізацыі. Гэтая навіна нас бы не зацікавіла, каб таварышча Янчэўскага не абвінавацілі ў сувязях з ліберальнай (???!!!!) арганізацыяй Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў (!!!??). Што самае цікавае, самі ЗБС-аўцы аб гэтых сувязях і аб тым, што яны тьфу, пагана вымавіць, лібералы даведаліся са старонак газэтаў.

Сапраўды, чым больш грызуцца між сабою апаненты, тым цікавей! Нават пра сваю арганізацыю можна нечага цікавага даведацца.

*Padborka padrychtavanaja infarmacyjnaj sluzbaj ZBS*

# Ці самотная я?



***Усім вядома, што з самотаю трэба змагацца дзеяньнем. Але як? Каб палегчыць выбар «антысамотнае зброі» прапануем Вам адказаць на некалькі простых пытаньняў. Адкажыце проста: так ці не. Пасьля падлічыце балы (за кожны адказ «так» - 1 бал) і прачытайце адпаведную калёнку. Памятайце, што добрых і кепскіх адказаў ня бывае (гэта не залік) і адказвайце шчыра.***

**1.**Мне ўвесь час не хапае сяброўскіх кантактаў.
**2.**Вакол мяне няма чалавека, да якога я магла б зьвярнуцца па дапамогу.
**3.**Мая самота абцяжарвае мяне.
**4.**Я пакутую ад разьвіцьця стасункаў зь людзямі (аднагодкамі, калегамі, знаёмымі).
**5.**Ніхто мяне не разумее цалкам.
**6.**Я лічу, што я — непрывабная. І мой воблік перашкаджае ў жыцьці.
**7.**Я пачуваю сябе пакінутай.
**8.**У мяне шмат знаёмых, але няма чалавека, якому можна было б даверыцца ў цяжкую хвіліну.
**9.**Я не ведаю настолькі самотнага чалавека як я.
**10.**Мне вельмі хочацца пазбавіцца ад сваёй робасьці й сарамлівасьці.
**11.**Я — няўдачніца.
**12.**Я мала знаёмлюся зь людзямі бо баюся адмовы.
**13.**Я самотная нават у натоўпе.
**14.**Было б цудоўна каб мяне любіла шмат людзей.
**15.**Мне вельмі цяжка з-за недахопу зносінаў зь людзямі. Можна сказаць, ўто пакутую ад гэтага.

## К Л Ю Ч

### 0-4

*Вам, як правіла, не ўласьціва пачуцьцё самоты. Калі ў Вас і ўзьнікае штосьці падобнае, то гэта, хутчэй, меланхолія ці пачуцьцё Вашага прыніжэньня ў вачах іншых, пакаяньня, уколы сумленьня.*

### 5-8

*Вы час ад часу сустракаецеся з пачуцьцём самоты, але гэтыя спатканьні нядоўгія й самота бяжыць ад вас як чорт ад ладана. Усялякая новая, цікавая дзя Вас справа, нязвыклая сытуацыя, цікавая кніга гоняць яе прэч і Вы забываецеся на гтае*

### 9-12

*Вам уласьціва пачуцьцё самоты. Вызначальную ролю ў яго пераадоленьні можа адыграць посьпех (перажываньне посьпеха). Паспрабуйце зрабіць тое, што найлепш у Вас атрымліваецца (які-небудзь кулінарны цуд, займіцеся спортам, мастацтвам, танцамі, паспрабуйце пісаць вершы). Пакажыце гэтае іншым— проста пахваліцеся. Калі ж на Вашую паспрабуйце выбіць пачуцьцё адзіноты інтэнсіўнай фізычнай працай. Паспрабуйце ўдасканаліць сваё мастацтва размовы з людзямі, разьвіваць магчымасьці ўплываць на іх, разьвівайце упэўненасьць ў сабе. Стварыце сабе іншы імідж. Памятайце, што ў Вас ёсьць маса добрых якасьцяў, такіх, напрыклад, як альтруізм, пачуцьцёвасьць, задушэўнасьць, Паспрабуйце жыць так, каб пачуваць сабе незаменнай, патрэбнай людзям.*

### 13-15

*Самота— ваш спадарожнік. Ішшага шляху як тэрмінова пачаць бароцца. Як? У любы магчымы спосаб. Уважліва прачытайце ўсе вышэй пералічаныя й выбярыце той, які, на вашую думку, найбольш дапасаваны да Вашага стану. Але што б Вы ня рабілі памятайце— галоўнае быць сярод людзей, уліцца ў калектыў. Гта можа быць любы гурток па інтарсах (кройкі й шыцьця, аматараў жывёл і г. д.)*

*Галоўнае— цьвёрда скажыце сабе: «Мая адзінота ня вечная й мае справы палепшацца!». Сапраўды, так і будзе!*



# Эўрапейскія Унівэрсітэты — назад у будучыню?

Фінансаваць адукацыю, значыць укладаць сродкі ў развіцьцё. Як казаў у свой час Аўраам Лінкольн: «Калі вы знаходзіце, што адукацыя занадта дарагая, паспрабуйце жыць у цемені»

Былі часы, калі студэнтаў непакоілі толькі іх курсавая па статыстыцы і мір ва ўсім сьвеце. Па-першае, у іх былі больш узвышаныя тэмы для разважаньня. Па-другое, у грошай быў звычай зьяўляцца, як толькі студэнты сканчвалі ўніверсітэт і атрымлівалі прыбытковыя мейсцы.

Зараз усё іначай. У Нямечыне і Францыі студэнты гадзінамі стаяць у чэргах, каб заняць мейсца ў лекцыённай залі. У Вялікабрытаніі і Нідэрляндах стыпэндыі хапае толькі на аплату жыльля і на дзе-якое сьціплае харчаваньне, і малыдыя людзі вымушаныя фінансаваць сваю адукацыю за лік спэцыяльных займаў. Іх неабходна будзе вярнуць, як толькі знойдзецца праца. А вольных мейсцаў становіцца ўсё меней. Такім чынам, сёньня студэнцкую моладззьабьядноўваюць не ідэялягічныя лёзунгі, а больш практычныя пытаньні. Агульны жах выклікае беспрацоўе.

Амаль што ва ўсіх краінах Эўрапейскага Зьвязу ідзе скарачэньне выдаткаваньняў на вышэйшую адукацыю. Усё больш і больш вучэбных установаў скарочваюць колькасьць прынятых да іх студэнтаў.

Напрыклад у Нямеччыне Ўрад прапануе увесьці аплату за навучаньне для багатых студэнтаў і налічэньне працэнтаў на спэцыяльныя рахункі для атрыманьня адукацыі. Але гэтая прапанова выклікала хвалю пратэстаў моладзі.

Ва Францыі колькасьць наступаючых ва ВНУ за апошнія 20 год узрасла на 83 працэнты. І ўрадавая палітыка накіравана на далейшае павышэньне колькасьці студэнтаў. Але пасьля ўвахода Францыі ў Эўрапейскі Зьвяз, спробы выканаць Мастрыхскую дамову* заставілі вельмі мала грошай ў скарбніцы на пашырэньне адукацыі.

Універсітэтам патрэбна выплаціць мільённыя запазычаннасьці, не кажучы ўжо аб найме дадатковых супрацоўнікаў.

У Велікарбытаніі сыстэма вышэйшай школы таксама адчувае зьмены. Краіна заўсёды мела традыцыю вышэйшай адукацыі высокага ўзроўню для адносна невялікай колькасьці студэнтаў, якіх адбіралі з верхавіны школьнай піраміды. Але за апошнія некалькі гадоў была спроба даць магчымасьць большай частцы насельніцтва атрымаць высокую кваліфікацыю. Універсітэты і каледжы зараз фінанасуюцца згодна з колькасьцю студэнтаў, якую яны прыцягваюць. Вынікі атрымаліся такімі нечаканымі, што далейшае пашырэньне ВНУ прыйшлося спыніць.

Разуменьне таго, што вялікая колькась навучаючайся моладзі, значыць большыя укладаньні грашовых сродкаў, а іх як раз і не хапае , выклікала паніку. За апошнія пяць год сродкі выдзеляныя зь бюджэту на кожнага маладога чалавека зьменьшыліся амаль на чвэрць. Студэнты лічаць, што іх дыплёмы трацяць свой кошт. Калі некалі ім прапаноўвалася уступленьне ў эліту, якой забяспечана занятасьць, то на данны момант у іх няма ніякіх гарантыяў абмінуць чаргу на біржы працы. Становішча пагоршылася з унясеньнем прапановы аб тым, каб студэнты часткова аплачвалі кошт вучобы. Зараз гэты цяжар ляжыць на плячах дзяржавы.

Суседняя Ірляндыя таксама змагаецца зь вялікім войскам студэнтаў. Урад спрабуе знайсьці магчымасьці пашырэньня вышэйшай адукацыі бяз страт для іншых грамадскіх сэктараў. Як і ў іншых эўрапейскіх краінах, ірляндцы лічаць, што разьвіцьцё цесных сувязяў паміж універсытэтамі і прамысловасьцю.

У Бэльгіі асноўнай праблемай сёньня зьяўляецца забеспячэньне гарантыі занятасьці. Акрамя таго, плата за навучаньне тут параўнальна невялікая , што робіць Бэльгію вельмі прыцягальнай для іншаземных грамадзян, што охчуць атрымаць адукацыю, і стварае новыя праблемы ў сувязі з перапоўненасьцю ўніверсітэтаў.

У Італіі ўмовы ў розных ВНУ вельмі розныя. Лекцыённыя залі ўніверсіта Ла Сапіенца перапоўнены, таму што ў ім навучаецца ў пяць разоў больш студэнтаў, чым дазваляюць яго разьліковыя магчымасьці. Пры чым сытуацыю тут яшчэ можна назваць даволі трывалай.

Таксама, як і Гішпанія, Італія ў мэтах эканоміі скарачае працяглась універсітэцкіх курсаў. І, як вынік, зьніжаецца якасьць адукацыі. Недахоп выкладчыкаў, кніг у бібліятэках і талпа ў аўдыторыях зрабілі сядзячыя забастоўкі даволі звычайнай зьявай для універсітэцкага жыцьця на Апэнінскім паўвостраве.

Праблемы адзельных краінаў і розныя падыходы да іх вырашэньня не магчыма больш разглядаць ізалявана. Перыяд навучаньня за мяжою стаў абавязковым для большасьці эўрапейскіх студэнтаў - не толькі для тах, хто займаецца мовамі, але і для вялікай колькасьці будучых інжынераў і бізнэсмэнаў.

Урады разрываюцца паміж неабходнасьцю выканаць патрабаваньні для стварэньня эканамічнага і валютнага зьвязу й намаганьнямі атрымаць дастатковую колькасьць адукаваных людзей, каб справіцца з канкурэнцыяй, калі гэты зьвяз узьнікне. Яны прапаноўваюць розныя рашэньні, але большасьць з іх бье па студэнтам - па іх фінансам ці умовам навучаньня.

Нават зьдзіўляе, што студэнты не так моцна гаманяць, апынуўшыся ў такіх складаных (па іх мерках) абставінах. Хутчэй за ўсё маладыя людзі настолькі занятыя забеспячэньнем сваёй будучыні, што ў іх не хапае часу на пратэсты. Цікава, як бы яны паводзілі сябе ў нашых умовах?

*Алесь Казак,*
*па матэрыялах часопісу «EUROPE»*

Мастрыхская дамова*- шэраг дамоваў паміж краінамі Эўрапейскага Зьвязу аб стварэньні унутранага рынку ЕЗ, забясьпечваючага свабодны рух тавараў, паслуг, людзей і капіталу.

# РАЗМЕРКАВАНЬНЕ ВЫПУСКНІКОЎ ВЫШЭЙШЫХ, СЯРЭДНІХ СПЭЦЫЯЛЬНЫХ І ПРАФЕСЫЙНА-ТЭХНІЧНЫХ УСТАНОЎ

## АГУЛЬНЫЯ ЗЬВЕСТКІ

1. Якія акты складаюць заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб працаўладкаваньні выпускнікоў вышэйшых, сярэдніх спэцыяльных і прафесійна-тэхнічных устаноў?

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», Закон «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь», а таксама пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь за 2.02.91 № 123 «Аб мерах па развіццю дагаворных адносін у падрыхтоўцы спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй» і праграма кадравага забеспячэньня рэформы, зацьверджанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь за 16.11.92 №690.

2. Чым вызначаецца парадакразмеркавання выпускнікоў?

«Часовым палажэньнем аб размеркаванні выпускнікоў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў». Распрацаванае ў адпаведнасьці з пералічанымі актамі і ўзгодненае з шэрагам дзяржаўных устаноў, яно з'яўляецца абавязковым для ўсіх міністэрстваў, ведамстваў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і іншых наймальнікаў.

3. Хто вырашае пытанні, звязанныя з размеркаваннем выпуснікоў?

Камісіі па разьмеркаванню, якія ствараюцца ў кожнай навучальнай установе. У вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, у якіх колькасьць выпускнікоў перавышае 500 чалавек, дапускаецца стварэнне некалькіх камісій па разьмеркаваньню.

• Мы выбіраем? Ці нас выбіраюць?

4. Хто ўваходзіць у камісію па разьмеркаваньню?

Камісія ствараецца з ліку супрацоўнікаў навучальнай установы. У яе рабоце могуць прымаць удзел прадстаўнікі галіновых і рэгіянальных органаў прафсаюзаў, міністэрстваў, ведамстваў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, зацікаўленых у спецыялістах пэўнага профілю, работнікі службаў занятасьці насельніцтва ўсіх узроўняў.

Склад камісіі па разьмеркаваньню зацьвярджаецца рэктарам (дырэктарам) навучальнай установы па ўзгадненьню з вышэйшай установай (міністэрствам або ведамствам).

5. Ці маюць права выпускнікі загадзя ведаць аб магчымых прапановах па працаўладкаваньні?

Так, для гэтага да пачатку работы камісіі па разьмеркаваньні кіраўнікі навучальных устаноў абавязаны азнаёміць выпускнікоў з дагаворамі, якія заключаны навучальнымі установамі з прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі на падрыхтоўку спецыялістаў, заяўкамі на спецыялістаў і кваліфікаваных рабочых.

## ПАРАДАК РАЗЬМЕРКАВАНЬНЯ

6. Ці можа рашэньне аб разьмеркаваньні выпускніка прымацца ў яго адсутнасьць?

Так, калі выпускнік не можа прысутнічаць на паседжаньні камісіі. Пры гэтым могуць улічвацца раней выказаныя пажаданьні выпускніка.

7. Як размяркоўваюцца тыя, хто вучыўся на дагаворных умовах ці на ўмовах мэтавага прыёму?

Яны накіроўваюцца на работу ў адпаведнасьці з дамовай, што заключалася з навучальнай установай пры іх паступленьні.

8. Як размяркоўваюцца тыя, хто вучыўся на агульных падставах?

Яны разьмяркоўваюцца на конкурснай аснове ў адпаведнасьці з заяўкамі прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, адпаведных міністэрстваў і ведамстваў, з улікам вынікаў пасьпяховасьці.

9. Які далейшы парадак працаўладкаваньня выпускніка, які атрымаў накіраваньне на работу?

Выпускніку, які атрымаў накіраваньне на работу, выдаецца пасьведчаньне аб накіраваньні на работу. Выпускнік абавязаны прыбыць на месца работы ў тэрмін, указаны ў накіраваньні. З маладым спэцыялістам, які прыбыў па накіраваньню, можа быць заключана па ягонай ініцыятыве тэрміновая працоўная дамова.

10. Ці абавязана камісія даць накіраваньне на работу ўсім выпускнікам

Не, колькасьць вакантных месцаў вызначаецца колькасьцю заявак (гл. п.8).

У выпадку, калі камісія па размеркаваньню не ў стане даць работу выпускніку, які паступаў на агульных умовах, з прычыны адсутнасьці месцаў, яму выдаецца даведка аб праве на самастойнае працаўладкаваньне, у якой указваецца: «даецца магчымасьць самастойнага працаўладкаваньня ў сувязі з адсутнасьцю месцаў накіраваньня».

11. Што адбываецца ў выпадку, калі выпускнік адмаўляецца ад месца работы, прапанаванага камісіяй?

У такім выпадку яму выдаецца даведка аб праве на самастойнае працаўладкаваньне, у якой указваецца: «даецца магчымасьць самастойнага працаўладкаваньня ў сувязі з адказам ад прапанаваных месцаў накіраваньня».

12. Што адбываецца ў выпадку, калі выпускнік без паважных прычынаў не з'явіўся на паседжаньне прыёмнай камісіі?

У гэтым выпадку яму выдаецца даведка аб праве на самастойнае працаўладкаваньне аналягічнага ўзору як у выпадку адмовы ад прапанаванага месца працы.

13. У які тэрмін выдаецца пасьведчаньне аб накіраваньні на работу або даведка аб праве на самастойнае працаўладкаваньне?

Не пазьней, чым за 5 дзён пасьля заканчэньня выпускніком вучобы.

## ІЛЬГОТЫ І ГАРАНТЫІ ВЫПУСКНІКАМ, РАЗЬМЕРКАВАНЫМ НА РАБОТУ

14. Ці даецца выпускніку аплачваны адпачынак?

Так, па заканчэньні навучальнай установы выпускнікам даецца адпачынак працяглясьцю ў адзін каляндарны месяц з выплатай месячнай стыпендыі за кошт сродкаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, у якія яны накіраваны на работу.

Выпускнікам педагагічных спэцыяльнасьцяў выплата указанай грашовай дапамогі ажыцьцяўляецца за кошт сродкаў навучальных устаноў.

Выпускнікам вышэйшых, сярэдніх спэцыяльных навучальных устаноў, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэньні, за час адпачынку, акрамя стыпендыі, выплочваецца месячная грашовая кампенсацыя за харчаваньне.

15. Ці кампенсуюцца выпускнікам выдаткі, зьвязаныя з пераездам на месца працы?

Так, выпускнікі, якія накіраваны пасьля заканчэньня навучальнай установы ў іншую мясцовасьць, маюць права на кампенсацыю расходаў, зьвязаных з пераездам, выплату заработнай платы за час знаходжаньня ў дарозе і выплату выпускнікам і членам іх сям'і аднаразовай дапамогі ў адпаведнасьці з працоўным заканадаўствам.

*Працяг на апошняй старонцы*

# Разважаньні на нарах

Ня ведаю ці распавядаць тут аб тым, як трапіў я ў такое "недалёкае" мейсца, як вязьніца. Я думаю, што няма патрэбы казаць, што у нашае краіне ў вязьніцу можа трапіць кожны. Можна выкарыстаць агульнавядомае выслоўе: "быў бы чалавек, а артыкул знойдзецца". І тым ня меньш, пара словаў і парадаў, як можна трапіць у вязьніцу і як сябе там паводзіць.

Па-першае, трэба абавязкова быць сябрам якой-небудзь партыі, альбо руха, якія ніякім чынам не падтрымліваюць спробы нашага, агульналюбімага бацькі-прэзідэнта гвалтоўна загнаць Беларусь у балота, нікому невядомага рынкавага сацыялізму, а пасьля ў яшчэ большае балота пад назваю Расея. Ты можаш не падтрымліваць ніякае партыі, руху і тусоўкі, ніяк не рэагаваць на палітыку прэзідэнта, АЛЕ калў ты размаўляеш па-беларуску, - то ты патэнцыйны злачынца, у якога абавязкова перад кожным слупам правыраць дакуманты і абшукваць кішэні. І не дай Бог сказаць што-небудзь аь правах чалавека. Адназначна пра цябе скажуць, што ты агент ЦРУ іншых страшэнных ворганаў і разьведак загніваючага капіталізму. Калў цябе прывядуць у міліцэйскі пастарунак, то там даведаешся, што твае кішэні былі набітыя ўлёткамі, якія заклікаюць да зьвяржэньня сёньняшняе законнае ўлады. І што ў тваім плястмасавым пакунку знайшлі амаль-што паў-бочкі, якім ты прыклейваў вышэй названыя ўлёткі на сьпіны "чэсных" грамадзянаў. У дадатак да гэтага ты быў настолькў пьяны, што ўсяго гэтага не заўважыў і не памятаеш. Пасьля атрымаеш, належачыя табе 20-30 кпінаў гумоваю дубінкаю, ці керзавым ботам па галаве, альбо ў тое мейсца дзе знаходзяцца твае ныркі. Далей магчымыя два шляхі разьвіцьця падзеяў. Першае і больш верагоднае, цябе адразу накіруюць у суд, дзе атрымаеш свае 10 сутак "адпачынку". Другое, яшчэ дадуць магчымасьць паваляцца на нарах у міліцэйскім пастарунку, у клктцы, якая называецца "акварыум", а пасьля той жа суд і тыя ж 10 сутак. Напрыклад мне яшчэ болей пашчасьлівіла. Вышэй апісаны працэс адбываўся з выкарыстаньнем дадатковае атрыбутыкі. Гэта жалезныя кайданы, якія сьцёрлі рукі да крыві й музычная "афарбоўка" у выглядзе пастаянных мацюкоў прадстаўнікоў аховы парадку.

Даволі цікавыя пачуцьці напаўняюць сэрца і галаву, калў трапляеш у той будынак на Акрэсьціна, жзе табе належыць правесьці 10 дзён "адпачынку". Першыя паў-дні знаходжаньня там ьудзе запоўнена афармленьнем дакумантам, згодна з "пуцёўкай", якая выдыдзена судом. Пасьля у цябе забяруць дробныя рэчы, калў уэта яшчэ не зрабілі ў пастарунку. Прыдзецца разьвітацца нават зь любімым гадзіньнікам, шнуркамі, запалкамі і г. Д. Пасьля 10 хвілінаўдля азнакамленьня з абавязкамі вязьня здымуць адбіткі з тваіх пальцаў рук і накіруюць у вялікую камэру са сьмешнаю назваю "адстойнік". Гэта самая звычайная камэра, вельмі падобная на шэраг іншых камэраў у якіх яшчэ табе дадуць магчымасьць пабываць.

Камэра - гэта невялічкі, альбо маленькі пакойчык (у залежнасьцў на колькў чалавек разьлічана) з брудна-сінімі сьценамі і зьедзенай сырасьцю столлю (звычайна гэтае столі не бачна з-за воблакам цыгарэтнага дыму, зьмешанага з парамі чалавечае жыцьцядзейнасьці). Большую частку пакойчыка займаюць нары. Нары - гэта тое мейсца вязень паінен дагладць і шанаваць, бо на гэтым мейсцы праходзіць усё тваё жыцьцё ў якасьці вязьня тут вязьні сьпяць, прыймаюць небагатае харчаваньне, пра якое будзе сказана ніжэй, тут нават адбываюццаспаборніцтвы па шашках ці шахматах, старанна вылепленых з хлебу. УВАГА! Не трэба памыляцца. Нары - гэта не ложак з матрацам, а звычайныя дошкі, пафарбаваныя чырвонае фарбаю. Таму праз пару дзён на сваёй сьпіне (калі ты яшчэ можаш ляжаць на ёй пасьля размовы з міліцыянтамі), дык вось праз пару дзён адчуеце сапраўдную розніцу паміж хатнім ложкам і турэмнымі нарамі. Таму, каб адчуваць сябу больш камфартабельна, вельмі файна мець з сабою цёплую вопратку, якой на вялікі жаль ў мяне з сабой ня было.

Відавочна ж, што ў камеры ёсьць такі кут, які называецца "сан. вузел", альбо па-іншаму "толчок". Гэта нешта агульнае, паміж прыбіральняй і умывальнікам. А кажучы простымі словамі - дзірка ва ў бэтонным узвышшы, на якое падымаешся па дзьвум грыступкам. Над дзюркаю прымацаваны кран з халоднаю вадою. "Толчок" аддзяляюцца ад астстные часткі камэрв цаглянае перагародкаю. Яшчэ застаецца трошкі мейсца (1м. * 1м.), каб можна было рабіць невялікія шпацыры аднараў да дзвярэй , адсьцяны да "толчка" і наадварот.

Вялікую ролю ў жыцьці вязьны іграе ежа. Харчаваньне адбываецца такім чынам. Раз на два дні, з раніцы і ў абед, табе даюць кубак гарачае вады з цукрам, альбо не у дадатак да гэтага вязень атрымлвае паў-бохана хлебу. У абед пакаштуеш супу і "другое" з перловае кашы і хлебнае катлеты. Такім чынам сапсаваць фігуру лішнім кілаграмам тлушчу вам не ўдасца. Але можна атрымаць дадатковую ежу празь перадачу ад бацькоў, альбо сяброў. Такую перадачу якраз можна зрабіць раз у 10 дзён.

Вельмі важны атрыбут турэмнага жыцьця - гэта сукамернікі. Але няма чаго хвалявацца, звычайна да "палітычных" тут ставяцца з павагаю. Маімі суедзямі, па большаму ліку, былі звычайныя людзі, якія трапілі сюды, альбо таму, што іх "здалі" жонкі, альбо праз прэзідэнтскі дыкрэт аб грашова-валютных апэрацыях.

І апошняе, на мой погляд існуе некалькі плюсаў ад таго, што "палітычныя" сядзяць у вязьніцах. Ёсьць час падумаць, аб далейшых мэтадах барацьбы і разглядзець усесвае памылкі, што прывялі цябе сюды. Атрымліваеш досьвед у адносінах з рознымі тыпамі людзей. І самае галоўнае, сваёй прысутнасьцю там, даеш магчымасьць міліцыянтам адпрацаваць грошы, якія яны атрымліваюць



• Усьміхнецеся, Вас здымаюць...

## Naviny adnym radkom...

**Час працаваць.**

У Эўрапейскім Зьвязе працу маюць 148 мільёнаў чалавек, што прыкладна складае 49,3% сярэдні узровень занятасьці. Самы высокі ўзровень занятасьці ў Даніі - 60%, а самы нізкі ў Гішпаніі - 37%.

У Гішпаніі і самы вышэйшы ў ЕЗ паказчык беспрацоўя.- 22,7%. За ёй крочыць Фінляндыя - 17%. Рэкорд пастаўлены Люксембургам, дзе колькасьць беспрацоўных грамадзян усяго 2,9 %.

Padborka padrychtavanaja Infarmacyjnaj Sluzbaj ZBS



Гісторыя вышэйшай школы на Беларусі

# Полацкая Езуіцкая Акадэмія.

Пад уплывам шырокага грамадзкага руху 21 чэрвеня 1773 году Папа Рымскі Клімент XIV ліквідаваў ордэн «Грамадзтва Езуса». Езуіты былі пазбаўлены ўсіх пасад, званьняў, маёмасьці, калегій, вучэльняў. Яны былі падпарадкаваны нараўне зь іншымі каталіцкімі сьвятарамі дэацэзіяльным біскупам.

Але Кацярына II, не цярпеўшая ніякага умяшальніцтва ў справы сваёй імперыі, жадала выкарыстаць незадаволенасьць супраць Клімента XIV езуітаў, дзеля стварэньня ў Расеі самастойнай і незалежнай ад папкай улады царквы. Таму правы Езуітаў не абмяжоўваліся, ім былі пакінуты ўсе іхнія касьцёлы, нерухомая маёмасьць, калегіі і школы. Цэнтрам дзейнасьці езуітаў стала Беларусь, дзе знайшлі прытулак мноства з іх выгнаныз з Польшчы і іншых краінаў Эўропы. Магутнасьць езуітаў дасягнула свайго эпагею пры Паўле I і ягонам міністры веравызнаньня Галіцыне. Яны перастаюць быць сродкам дасягненьня мэтаў расейскае дыпляматыі і наадварот, прымушаюць яе служыць сваім мэтам і падпарадкоўваюць свайму ўплыву пецярбургскае грамадзтва.

У час Аляксандра I, які быў вельмі прадузята настроены супраць езуітаў, яны тым ня менш карысталіся вялікім уплывам. У той час на іх глядзелі як на ворагаў рэвалюцый і ахоўнікаў прэстолаў. Адной з галоўных задач езуітаў было распаўсюджваньне свайго ўплыву на моладзь. Ягнэ Лайола кіраваўся тэзісамі —«будучыня належыць таму, хто трымае ў руках маладое пакаленьне».

Ужо у канцы — пачатку XIX стагодьдзя езуіты мелі на Беларусі 6 калегіяў, 10 місіяў, валодалі амаль 14 тысячамі сялян. Галоўным цэнтрам паступова стаў Полацак. Аднак з утварэньнем у 1803 годзе Віленскае навучальнае акругі, полацкая езуіцкая калегія трапіла ў залежнасьць ад Віленскага Ўніверсітэта. Бачучы ў гэтым пагрозу свайму існаваньню й дзейнасьці, езуіты вырашылі дабіцца дазволу заснаваць акадэмію«незалежную ад Віленскага ўніверсітэта», але«знаходзячуюся пад ўрадавым кантролем» . Пагроза вайны з Напалеонам а таксама боязь нацыянальна-вызваленчае барацьбы ў заходніх губерніях, прымусілі Аляксандра I пагадзіцца з гэтаю прапановаю. Адпаведны ўказ выйшаў 12 студзеня 1812 году. У распараджэньні гэтае новае акадэміі было пакінута 13 вучэльняў у Полацку, Пецярбурзе, Віцебску, Магілёве, Воршы, Мсьціслаўле, Чачэрску, Клімавічах, Рызе, Астрахані, Адэсе, Раманаве (на Валыні) і ў Саратаве. На тэрыторыі Расеі па-сутнасьці ўтварылася асобая езуіцкая акруга, а Полацак стаў цэнтрам найбольш рэакцыйных сілаў каталіцтва ў краіне.

10 ліпеня 1812 года адбылося ўрачыстае адкрыцьцё акадэміі. У Полацку сабралася вялікая колькасьць шляхты з усяе Беларусі. Быў тут і беларускі генерал-губернатар герцаг Віртэнбергскі, і грэка-вуніяцкі архібіскуп Іаан Красоўскі, і біскуп Дзедзер...(ка). Першым рэктарам акадэміі быў прызначаны доктар багаслоўя Люстыг. Навучальная установамела правы універсітэта і залежала ад міністэрства народнай асьветы. Яна складалася з трох факультэтаў: лінгвістычнага, вольных навук і багаслоўскага. Самым моцным быў багаслоўскі факультэт, што адпавядала мэтам і задачам арганізацыі акадэміі. Вучыцца тут магла моладзь усіх званьняў і веравызнаньняў, але навучаньне было платным: 600 рублёў асігнацыямі ў год. Штогод тут вучылася 300-400 юнакоў, прыбыўшых з розных мясьцінаў Беларусі, Польшчы і Расеі.

У акадэміі не пасьпелі пачацца заняткі з-за пачатка Айчыннай вайны 1812 годаі захопу французамі Полацка. Сярод выкладчыкаў і студэнцтва акадэміі былі вельмі папулярныя ідэі аднаўленьня Рэчы Паспалітай у межах 1772 года з дапамогаю арміі Напалеона. Шмат хто зь іх супрацоўніцаў з французамі, дапамагаючы ў забесьпячэньні арміі і праводзячы шпіёнскую працу. Аднак пасьля выгнаньня французаў акадэмію не зачынілі, хоць праекты такія былі. І ўжо 8 студзеня 1813 года тут пачаліся заняткі. Штодня студэнты мелі па 6 гадзінаў лекцый, у аўторак і чацьвер -толькі тры, астатні час прызначаўся для заняткаў гімнастыкай, паляваньнем, музыкай і танцамі. Была сабрана тут і вялікая бібліятэка (каля 35 тысяч тамоў), існаваў музей «выдатнасьцяў». Але асноўны прынцып падбору вучэбных дапаможнікаў і літаратуры быў у тым, каб яны уздзейнічалі на ўяўленьне, сьвядомасьць. Так, сярод славутасьцяў музея былі «гаворачая галава», барометар у выглядзе манаха, жывёлы з тымі ці іншымі паталагічнымі адхіленьнямі. Акадэмія мела і сваё выдавецтва, дзе друкаваліся падручнікі, навуковыя трактаты і літаратурныя зборнікі. Выходзіў тут і добра ілюстраваны «Miesiecznik Polocki» - часопіс акадэміі на польскай мове. Тут друкаваліся гістарычныя, крытычныя працы, вершы, пераклады. Нягледзячы на гэтае больш-менш спрыяльнае разьвіцьцё акадэміі, яна была асуджаная ў дзень свайго адкрыцьця. Гэта разумелі нават расейскія чыноўнікі, адзін зь іх - Тургенеў - гаварыў: «Гэта пачатак канца, цяпер яны зробяць столькі спраў, што іх выганяць». Так і адбылося: езуіты пачалі пераварочваць у каталіцкую веру праваслаўных юнакоў як са знакамітых расейскіх сем'яў, так і з простага насельніцтва. Гэта была гульня з агнём, і езуіты, зразумела, прайгралі. 13 сакавіка 1820 года было Высачайша загадана: «Езуітаў як забыўшых сьвяшчэнны доўг не толькі падзякі, але і вернападданніцкай прысягі... выгнаць пад наглядам паліцыі за межы дзяржавы... а Полацкую езуіцкую акадэмію і падначаленыя ёй вучэльні ліквідаваць». Так быў вырашаны лёс акадэміі, якая за нядоўгія гады свайго існаваньня ўсё ж пасьпела зрабіць сябе бессмяротнай праз сваіх выхаванцаў-гісторыка К.Тышкевіча, філосафа А.Доўгірда, астранома Я.Накцыяновіча, палітыка Т.Корсака, мастака В.Вальковіча, пісьменьніка Я.Баршчэўскага.

*Андрэй Самусік*

**Naviny adnym radkom...**

***Сумна, спадарства...***

Як стала вядома, адзін зь лідэраў Згуртаваньня Беларускае Моладзі Віленшчыны Валеры Савянкоў цяпер знаходзіцца ў летувіскай вязьніцы. Ён падазраецца ў крадзяжы сьцяга Летувіскае Сталіцы з будынка мэрыі г. Вільні.

Гэты інцыдэнт даў магчымасьць некаторым сродкам масавай інфармацыі пачаць "абліваць брудам" увесь беларускі рух Віленшчыны. Не жадаючы нікога абвінавачваць ці апраўдваць хочацца толькі сказаць: "Сумна й сорамна, шаноўнае спадарства..."

Padborka padrychtavanaja Infarmacyjnaj Sluzbaj ZBS

# Ігар Войніч: "Камэлот" застаецца гэткім бязь усялякіх варыянтаў



***Шматлікім прыхільнікам айчыннага року ўжо даўно і добра вядомы этна-рок гурт "Камэлот". Аднак, асабліва ў апошні час, усё настойлівей робяцца чуткі, што гурт распаўся. За тлумачэньнямі па зацікаўішаму нас пытаньню мы зьвярнуліся да аднаго з заснавальнікаў гурта "Камэлот" Ігара Войніча.***

— Наш гурт стварыўся напрыканцы 1991 года, калі вядомы ў вузкіх колах беларускі бард Зьмітро Сідаровіч вырашыў стварыць нешта рыцарскае, якое адносілася б да таго перыяду гісторыі, калі Беларусь была шляхецкай краінай. У гурт увайшлі Саша Кішкін, Валянцін Агееў, Зьмітро Сідаровіч і я, Ігар Войніч. Мы пачалі распрацоўваць сумесныя праекты і ўжо пачынаючы з 1992 года — выступаць. І на працягу паўтара гадоў актыўна займаліся канцэртнай дзейнасьцю. Назва для гурта была ўзятая зь легендаў аб каралі Артуры.

*—Гурт існуе ўжо доўгі час, але чаму першы альбом "У Краіне Талераў" выйшаў параўнальна нядаўна?"*

—У 1993 годзе мы не вельмі ўдала выступілі на польскім фэсьце "Басовішча". Прычынаў было шмат: мы пачыналі канцэрт ды і інструменты былі дрэннай якасьці, ды й сьпявалі мы "міма нот" (як нам потым растлумачылі гледачы). З таго часу, амаль на працягу паўтара гадоў мы зараблялі грошы для таго, каб атрымаць магчымасьць зьняць студыю. Таму і свой першы альбом запісалі з такім спазьненьнем. Чаму ён называецца "Краіна талераў"? У нашым уяўленьні — гэта своеасаблівая рамантычная краіна, прататыпам якой з'явілася Вялікае Княства Літоўскае. А ў альбом увайшлі, у асноўным, песьні '92-'93 гадоў, але ёсьць і больш старыя. Напрыклад, песня "Дуда, лютня ды бубен".

*—На чыю музыку вы арыентаваліся, ствараючы свой стыль?*

—Песьні, у асноўным, належылі пяру Зьмітра Сідаровіча, які аддаваў перавагу "Бітлз". Але ў працэсе аранжыроўкі прымалі ўдзел усе сяўры гурта. Таму нашыя песьні сталі вынікам аб'яднаньня розных музычных густаў. Мы імкнуліся стварыць нешта эўрапейскае, ірляндзкае, кельцкае, а атрымалася славянскае.

*—Усё настойлівей робяцца чуткі, што "Камэлот" распаўся. Ці так гэта на самой справе?*

—Казаць аб тым, што "Камэлот" распаўся—заўчасна і безасноўна. Проста паміж мною і Зьмітром Сідаровічам з'явіліся некаторыя рознагалосьсі па прычыне таго, як апраўдаць укладзеныя ў альбом сродкі. На маю думку, гурт павінен граць канцэрты і больш бываць "на публіцы". Зьмітро ж, насупраць, лічыць, што канцэртамі займацца не трэба. Сам жа канфлікт адбыўся паміж нашым вакалістам Анатолем Масаем і Зьмітром Сідаровічам, у выніку чаго Зьмітро вырашыў пайсьці з гурта і пажадаў, каб мы не выкарыстоўвалі назву "Камэлот". Але гэта не азначае, што гурт перастае існаваць. Побач з неўвайшоўшымі ў папярэдні альбом песьнямі ўжо маюцца распрацоўкі новых кампазіцыяў.

*—Ці захаваліся сяброўскія адносіны паміж ""камэлотчыкамі і пакінуўшым вашыя рады Зьмітром Сідаровічам?*

—Натуральна, захаваліся. І я за тое, каб працягваць сумесную працу, тым больш, што мы разам напісалі музыку да спэктакля "Заложніца каханьня". Але, у рэшце рэштаў, я буду толькі рады, калі Зьмітро вырашыць стварыць нешта новае. Чым больш беларускіх гуртоў, тым лепей. Хоць і нельга сказаць у поўнай меры, што Зьмітро Сідаровіч пакінуў гурт. Проста ён пакуль не жадае ўдзельнічаць у канцэртах. Але запісваць новыя песні мы будзем, хутчэй за ўсё, у ранейшым складзе. Стыль "Камэлота", думаю, таксама не зьменіцца, хоць тэматыка песень будзе меней ваяўнічай у адрозненьні ад "Краіны Талераў". Пісаць жа тэксты да новых песьняў мне дапамагаюць некалькі паэтаў, у тым ліку і Руслан Баёк з гурта "Інтэльмедыя".

*—А для якой аўдыторыі прызначаныя песьні "Камэлота"?*

—Да нашае радасьці, па-ранейшаму ёсьць людзі, якім падабаецца нашая музыка і якія дзякуюць нам за тое, што сьпевы "Камэлота" можна супрацьпаставіць рэстараннай музыцы "а-ля Шуфутінскі". Аднак, фан-клюбу ў нас няма, нягледзячы на тое, што па продажу касэт мы ідзем на другім месцы пасьля "Ляпіса Трубецкога".

*Гутарку вялі Іна Грэбень і Юлія Ціхановіч*

### Дуда, лютня ды бубен

*Музыка і словы А. Кішкіна*

*Сёньня тут траве расьці,*
*Сёньня тут яна шуміць.*
*Сьпелы яблык не знайсьці,*
*Калі раптам упусьціць!*
*Нам пяюць вятры,*
*Ды траскоча лубін,*
*Як тут жылі мае сябры -*
*Дуда, лютня ды бубен.*

*Сустракала нас сьвятло*
*Там за вёскай, ля царквы.*
*А у нас вогнішча было*
*Ды кілім густой травы.*
*Толькі брэх сабак*
*Быў чуваць за мілю!*
*А мы былі ўсе адзетыя так -*
*У вёску нас на парог не*
*пусьцілі!*

*Але ж вечар быў які,*
*Як скакала пад дуду*
*Вёска ўся! У бубен біў*
*Дзяк у шапцы набакір.*
*Пахлі верасам*
*Рукі маей мілай.*
*Тае ночы толькі ветрык спаў,*
*А птушкі нам плясказі ў*
*крылы.*

*Раніцою вецер нёс*
*Попел вогнішча таго.*
*У дарогу клікаў лёс,*
*І нам не змагчы яго.*
*Брэх чуваць сабак,*
*Дні зьмяняюць ночы,*
*Бубен, лютня і дуда*
*Пыльнай дарогай крочаць.*

# *Маладзёвыя недзяржаўныя арганізацыі: "Это есть наш последний и решаюўий бой"?*

Гэтая вясна выдалася надзіва багатаю на падзеі ў маладзёвых недзяржаўных арганізацыях. Эпапея са стварэньнем БПМС ці "Лукамола", як яго ўжо пасьпелі ахрысьціць менскія студэнты, прымусіла задумацца вельмі шмат людзея. Як вынік -- узьнікненьне новых беларускіх маладзёвых груповак нацыянальнага накірунку ды рэзкае ўзмацненьне старых. "Актывізаваліся" цэлыя рэгіёны. І што самае добрае, правінцыя нават у некаторым сэнсе абганяе Менск.

Гэта ў першую чаргу зьвязана з тым, што ў Менску ёсьць пэўная альтэрнатыва "Лукамолу" ды ў яго ня так моцна заганяюць, як, напрыклад у Магілеве. Таму сталічная моладзь мае трохі больш часу паразважаць на тэмат удзелу ў грамадзкім жыцьці. У іншых жа гарадах аўральны парадак стварэньня БПСМ і дабраахвотна-прымусовы запіс ў яго прымушае тых каму да 25 шукаць паратунку ў стварэньні беларускіх па духу недзяржаўных арганізацыяў. Як паказала вясна, гэта ў некаторых выпадках нават добра -- новастворaныя групы пачынаюць дзейнічаць адразу, без "раскачкі". Шмат у гэтым дапамагаюць і Менскія арганізацыі. У першую чаргу парадамі.

Аднак сьпяваць пераможныя гімны зарана: БПСМ яшчэ не спрабаваў пачаць сур'ёзны наступ на іншыя НДА. Акрамя таго, хуткае, без прыцыркі стварэньне альтэрнатыўных групаў нясе ў сабе й пэўную небясьпеку. Справа ў тым, што новаўзьніклыя арганізацыі час ад часу нагадваюць "саюз супраць...", а такія стварэньні, як нам вядома, недоўгатрывалыя. За прыкладам далёка хадзіць ня трэба -- дастаткова ўспомніць развал БНФ-аўскіх суполак на месцах у 1990-1991 гадах (БНФ тады яшчэ ня быў партыяй). Таму, на маю думку, асноўнаю задачай больш дасьведчаных арганізацыяў на сёньня ёсьць дапамога ў пераадоленьні ці нават прадухіленьне крызісаў у маладых групах. Але ж гэта не азначае афармленьня ці пераводу мясцовых арганізацыяў у стан сваіх рэгіянальных філіяў. Для супрацьстаяньня рэжыму ў цяперашняй сытуацыі найбольш якраз падыходзяць маленькія мясцовыя групы без адзінага кіраўніцтва, але з добра наладжанай сыстэмай каардынацыі. Ролю каардынацыйных структураў на бліжэйшы час і могуць выконваць менскія арганізацыі. На іхную ж долю выпадае дапамагчы "рэгіёналам" у атрыманьні грантаў (навучыць пісаць заяўкі, працаваць з фундатарам, арганізоўваць рэалізацыю праекта). Часткова за гэтую ролю ўвесну ўзяліся цэнтар "Супольнасьць", ЗБС, маладзёвая арганізацыя БНФ, якая сама знаходзіцца ў стане станаўленьня. Але, як вядома, за вясною ідзе лета -- пара адпачынку. Моладзь ня выключэньне. Таму нейкія вынікі гэтае працы падводзіць пакуль што зарана.



• Рэакцыя на "Лукамол"?

Усё пакажа восень, а дакладней верасень-кастрычнік. Бо ў гэтыя два месяцы будзе асноўная барацьба паміж "Лукамольцамі" і ўсімі астатнімі арганізацыямі за ўплыў на моладзь. І я думаю, што не памылюся, калі скажу што той хто здолее захапіць ініцыятыву ў гэтую восень, той праз год будзе кантраляваць беларускую моладзь. Таму асноўнаю задачаю "абодвух лягераў" на лета зьяўляецца падрыхтоўка да восені. І калі "Лукамольцы", хутчэй за ўсё будуць прасіць сабе статўкі ды спадчыну ВЛКСМ, то астатнім НДА трэба думаць у першую чаргу наконт прыцягненьня дадатковых людзкіх рэсурсаў. А на другім мейсцы мусіць стаяць распрацоўка цікавых маладзёвых праграмаў. Трэба памятаць, што БПСМ будзе "купляць моладзь". Такой магчымасьці ў іншых няма. Таму трэба менавіта зацікавіць маладога чалавека, "прывязаць да сабе" інтэлектуальна, бо такія сувязі куды больш трывалыя. Я таксама лічу, што трэба распрацаваць праграму "нераагітацыі", ня трэба БПСМ-аўцам закрываць дарогу да сябе (значная частка зь іх былі прынятыя прымусова). Мы не настолькі багатыя людзямі, каб дзяліць моладзь на сваіх-чужых.

Надыходзіць лета. А за ім восень, якая абяцае быць цікаваю ды напружанай. Якія вынікі будуць узімку?...

*Ігар Тышкевіч*

## Anons numaru

***Усе нашыя чытачы мусіць зьвярнулі ўвагу на затрымку з выхадам 2-га нумара "ДУМКІ". Шмат у чым гэтая затрымка была зьвязаная з прывычнай у наш час зьявою: сябра рэдакцыі Алесь Казак пазнаёміўся з беларускімі служкамі Фэміды. Як вынік -- адсядзеў 8 сутак у вязьніцы.***

***Ягоныя "разважаньні на нарах" чытайце на сёмай старонцы.***

***

***Студэнтаў пятага курса з пачатку вясны турбуе такая рэч як разьмеркаваньне.***

***Ці сапраўды яно абавязковае?***

***Як самому выбраць мейсца працы?***

***Як адбываецца гэты працэс?***

***Адказы на некаторыя з гэтых пытаньняў Вы здолееце атрымаць у рубрыцы "Праваы лікбез".***

***

***Летась ў продажы зьявілася касэта гурта з дзіўнаю й зачароўваючай назвай "Камэлот". Мала хто ведаў пра гэты гурт, дэбютны альбом якога стаў адным з самых папулярных сярод альбомаў беларускіх гуртоў. З-за недахопу інфармацыі папаўзьлі чуткі кшталту: ""Камэлот" гэта... фікцыя й такога гурта папросту не існуе" ці "Камэлот" існаваў, але разпаўся...".***

***Але такі калектыў ёсьць! І на 9-й старонцы мы друкуем інтэрвью з адным са стваральнікаў гурта Ігарм Войнічам.***

## Naviny adnym radkom...

***ЗНОЎ САМВЫДАТ***

Як вядома, са свабодаю слова ў нашае краіне не надта добра. І кожны па свойму шукае выйсьця са склаўшайся сытуацыі. Зьяўляюцца новыя людзі, новыя ідэі... Але, нягледзеўшы на новаўзьніклыя маладзёвыя незалежныя выданьні можна яшчэ раз пераканацца, што новае -- гэта добра забытае старае. Справа ў тым, што за 1995-1996 гады на Беларусі ўзьнікла сама меней 8 маладзёвых газэтаў. Нягледзячы на ўсю іхнюю розначасьць, ўсе гэтыя выданьні можна ахарактарызаваць словам, якое мы ведаем з канца 80-х -- "самвыдат".

Моладзь на пытаньне "Што рабіць, калі дзяржава не дазваляе дзейнічаць СМІ?" адказала проста: "А навошта ўвогуле запытваць дзяржаву пра згоду?..."

Padhorka padrychtavanaja Infarmacyjnaj Sluzhaj ZBS

# Гомасэксуалізм і доля народаў

Як сьведчыць Біблія, Пан Бог зьнішчыў Садом і Гамору за гомасэксуалізм жыхароў гэных местаў. Па падляках акультыстаў, мы — сучаснае чалавецтва зьяўляемся пятымі жыхарамі зямлі. Чатыры ж папярэднія гэнэрацыі зьніклі, ці лепш сказаць вырадзіліся з-за таго самага — павальнага гомасэксуалізму. Згодна з акультысцкімі тэорыямі, нашымі непасрэднымі папярэднікамі былі тытаны альбо людзі-гіганты. На падставе лэгенд аб іх старажытныя грэкі будавалі сваю рэлігію з пантэёнам багоў на Алімпе. Адпаведна грэцкай міфалёгіі, галоўным богам быў Уран (пазьней рымляне называлі яго Сатурнам), які правіў разам са сваёю жонкаю Геяй (Маці Зямлі). Уран «спарадзіў» Кронаса, Кронас—Зэўса, а той, у сваю чаргу «спарадзіў» увесь пантэён багоў ды паўбагоў, уключна з Гераклам, Прамэтэям ды іншымі. І тады, быццам, быў «залаты век» на Зямлі.

Калі ж далей вывучаць акультную тэорыю разьвіцьця плянэты, то мы сустракаем ўзгадкі пра ўсім вядомых атлантаў. Менавіта жыхары Атлантыды й былі трэцяю гэнэрацыяй ці папярэднікамі тытанаў. Пра іх мы ведаем з запісаў вядомага філёзафа Платона, які апісаў цуды гэтае цывілізацыі. Гэта і віды энэргіі, якія яшчэ невядомыя нашай цывілізацыі і выкарыстаньне энэргію сьвятла ў спалучэньні з гравітацыйнаю энэргетыкаю Зямлі. Жыхары Атлантыды пакінулі па сабе ў розных кутках плянэты «цуды сьвету», аб якіх да сёньняшняга дня спрачаюцца навукоўцы. Але адным з такіх «цудаў» стаў... гомасэксуалізм. Між іншым, Атлантыда, як Садом і Гамора зьнікла ў моры.

Успомнім гісторыю вялікіх імпэрыяў Міжземнамор'я. Яны разваліліся з-за элементарнага выраджэньня народаў, якое было выклікана тым-жа гома...

Між іншым, сучасныя разьвітыя краіны Захаду па разьвіцьцю гомасэксуалізма не пашмат адстаюць ад тых жа старадаўніх грэкаў ды рымлянаў. У некаторых краінах сацыёлагі прадказваюць зьнікненьне сям'і як сацыяльнае інстытуцыі ўжо у першай палове XXI стагодзя.

На зьмену эпітэтам «мама» ці «тата» прыходзяць «Oldman» «Oldwoman» — што ў літаральным перакладзе гучыць як «стары мужчына (старик)» і «старая жанчына (старуха)». Дастаткова паглядзець на азначэньні сям'і, якія даюць шмат у якіх навучальных установах: «Сям'я — гэта два ці больш чалавек, якія маюць супольныя матэрыяльныя, духоўныя й сэксуальныя інтарэсы». Нейкія пачуцьці, пашана да старэйшых быццам і не патрэбныя. Апошнім часам усё больш распаўсюджаным становіцца так званы фіктыўны шлюб, калі лесьбіянка ды гомасэксуаліст ствараюць «сям'ю» на ўгоду бацькам. Натуральна, што хаця яны й жывуць разам, але аб ніякіх сэксуальных кантактах і гаворкі ісьці ня можа. Зьявілася таксама новая каста «чыстай жаноцкасьці». Гэта так званыя «старыя дзевы» ды ім падобныя — жанчыны, што праз усё сваё жыцьцё аніводнага разу ня мелі блізкасьці з мужчынам. Так званыя «нявіньніцы», «дабрачэсныя», «цнатлівыя». І, як гэтае ня сумна, іхняя колькасьць нясьпынна расьце. А па ўсім сьвеце, асабліва ў разьвітых краінах, катастрафічна падае нараджальнасьць... Нявіннасьць, якая яшчэ ня так даўна прыкрашала дзеўчыну й рабіла гонар сёйным бацькам сёньня абарочваецца праклёнам і ганьбаю. Хіба гэта ня ёсьць прыкметаю паступовага працэсу выраджэньня? Хіба не ў гомасэксуалізме ды лесбійстве корань зла?

Калі ж выбіраць між гомасэксуалізмам жаночым (лесбійствам) ды мужчынскім (непасрэдна гомасэксуалізм), то другі ўсё ж ў большай меры спрычыняецца да працэсу выраджэньня. Жанчына, нават лесьбіянка, ніколі не страчвае фізыялагічнае здатнасьці да родаў і мае ў сабе нявычэрпнае арганічнае пачуцьцё мацярынства. Лесьбійства можна ахарактарызаваць як рэакцыю пратэсту жаноцтва на гомасэксуалізм мужчынаў. Сэксуальна пакрыўджаная жаночая палова чалавецтва заўсёды адчайна шукала выйсьця з катастрофы выраджэньня грамадзтваў. Спрадвеку



жанчыны шукалі паратунку ў багіняў-апякунак. Вядомы старадаўнія храмы, такія як храмы багіні земляробства ды пладавітасьці Дэмэтры. Але богі заставаліся глухімі да жаночых малітваў і не маглі прымусіць збочаных гомасэксуалізмам мужчынаў кахаць жанчын хаця б дзеля прадаўжэньня роду. Ды што казаць, калі сам бацька грэцкіх багоў Зэўс меў каханка — юнака Гімэнэя.

Натоўпамі ішлі жанчыны й дзеўчыны ў храмы сваіх багіняў і месяцамі чакалі нагоды аддаць сваю нявіннасьць хоць якому мужчыну. Некаторым шчасьціла. Астатнія ж вярталіся дадому ні з чым...

Гісторыкі й дасьледчыкі шукаюць прычыны зьнікненьня імпэрыяў, цывілізацыяў ды народаў у вайсковых паразах, кепскіх законах, прыродных катаклізмах ды мала чым іншым. І не разумеюць сапраўднае прычыны.

Галоўнаю ж прычынаю выраджэньня грамадзтваў быў і застаецца гомасэксуалізм. Ўжо ён адзін можа зьнішчыць чалавецтва ды цывілізацыю, як зьнішчыў чатыры папярэднія. Таму агідна слухаць ці чытаць абаронцаў «іншае ірастасі» каханьня. Ненармальна ўжо тое, што ў разьвітых грамадзтвах выдаткоўваюць шалёныя грошы на барацьбу з наркаманіяй, алкагалізмам, паленьнем, прастытуцыяй, але адначасова падаюць гомасэксуалізм як адно з дасягненьняў дэмакратыі. А ён і ёсьць сапраўднаю чумою XX стагодзя! Але замест лячэньня, заходнія грамадзтвы ганарацца ёю як прызнакам свайго «узвышэньня» над маларазьвітымі народамі. Самы час сказаць што і СНІД пачаў распаўсюджвацца як вынік масавага гомасэксуалізма на «высокаразьвітым Захадзе»!

*Уладзімір Бульба,*
*Таронта (Канада)*
*часопіс «ЛЕЛЬ» (Украіна)*

*Мікола Казагонак*

## Беларускі цыкль птушыны

Варона чорная на дрэве
Сядзіць, глядзіць сусьвет.
І не вядома ёй ні Крэва
А ні Францішка запавет.

На дрэве чорная варона
Сваё паслала ў неба "Кар"!
Затым паціху паляцела,
Дзівіся на яе Ікар.

Варона каркнула прыгожа,
Яна так думае сама.
вось ухваліць яе так гожа
І ацаніць каму няма.

Бяды варона не баіцца,
Не трэба думаць дужа вузка.
Павінна "Кар" яе прабіцца,
Яна, варона, — БЕЛАРУСКА!

***

Белабокая сарока
Прыляцела падвакно
І рассыпала навіны.
Што вядомыя даўно.

***

А ночай сініцы
Як быццам бы сьніца
"Палячу да Беларусі,
Я там салам разжывуся.
Бо ў гэтае Расеі,
Толькі сьнежныя завеі.
Там жа цешацца сініцы,
Журавель ім і не сьніцца
А не слухайце вар'ята.
Што лапоча там пра атам.
Я там сала паклявала,
Во, глядзіце,— лапкі скалала."

****

Вераб'ю насыпалі мякіны.
Ён загроб яе сабе пад ногі
І вырашыць, што мае змогі:
"Сваe мякіны я не кіну!"

Адусюль зьляцеліся птушкі,
Крычаць: "Глядзіце, не пакіну!
Стары вар'ят, сваю мякіну
Сабраў з дарогі, ды пад ногі."

Шчабеча шпарка верабей,
Кладуцца словы пісягамі:
"Дзяржу мякіну пад нагамі,
А вы яе — у галаве."

****

Лётаў бусел над палеткам,
Плакаў:
"Здохлі мае дзеткі,
І памерла мая жонка.
Што за брыдкая старонка
Стала гэта Беларусь!"
Сабраў бусел свае трапты
І падаўся ў эмігранты.

****

Во абрыдла дзятлу стукаць,
Узяў ды сьціх.
"Во псіх!" —
Сказалі пра яго.
"Няхай бы дзёўб.
Усё адно ніхто не слухаў."
Дзяцел толькі нос пачухаў,
Маўчыць, не дзьме ў вус.
Той дзяцел поўне — БЕЛАРУС!

## РАЗМЕРКАВАНЬНЕ ВЫПУСКНІКОЎ ВЫШЭЙШЫХ, СЯРЭДНІХ СПЭЦЫЯЛЬНЫХ І ПРАФЕСЫЙНА-ТЭХНІЧНЫХ УСТАНОЎ

*працяг са стар. 1*

16. Ці павінны выпускнікі на новым месцы працы забясьпечвацца жыльлём?

Так, арганізацыя-работадаўца павінна забясьпечыць маладога спэцыяліста жылой плошчай у парадку, які вызначаны жыльлёвым заканадаўствам рэспублікі.

Для выпускнікоў, якія прыбылі на працу ў сельскую мясцовасьць, арганізацыі-работадаўцы або мясцовыя Саветы народных дэпутатаў пры недахопе ўласнага жыльлёвага фонду могуць арандаваць жыльлё у грамадзян з аплатай за кошт сродкаў арганізацыі.

17. Што адбываецца ў выпадку адмовы прадпрыемства, установы, арганізацыі прыняць на работу разьмеркаванага выпускніка?

У гэтым выпадку з арганізацыі спаганяецца штраф у адпаведнасьці з Законам «Аб занятасьці насельніцтва Рэспублікі Беларусь»

18. Ці можа працаўладкаваны выпускнік быць звольнены ці пераведзены на іншую работу?

На працягу 2-х гадоў пасьля заканчэньня навучальнай установы выпускнік не можа быць звольнены або пераведзены на работу, не зьвязаную з атрыманай спэцыяльнасьцю, прафесіяй, кваліфікацыяй, без ягонай згоды.

19. Якія яшчэ ільготы маюць выпускнікі ?

Прадпрыемствам, установам і арганізацыям прадастаўлена права выдаваць маладым спецыялістам пазыкі на індывідуальнае будаўніцтва, набыцьцё мэблі і іншага жыльлёва-бытавога і сельскагаспадарчага інвентару, прымаць без чаргі ў жыльлёвабудаўнічыя кааператывы.

**КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ:**

Часовае палажэнне аб размеркаванні выпускнікоў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесіянальна-тэхнічных устаноў (дадатак да загада Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь за 15.03.93 № 84). Апублікавана ў «Зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь» №7 /1993.


STUDENCKAJA DUMKA
№ 2
травень 1997
Часапіс беларускага студэнцтва
Выдаецца з 1924 года (зь перапынамі).
Выданьне аднoўлена ў 1989 годзе.
Нумар рыхтавалі:
Алесь Казак, Ігар Тышкевіч
Меркаваньне аўтараў можа не супадаць з поглядамі рэдакцыі.
Аўтары нясуць поўную адказнасьць за дакладнасьць падачы матэрыялу.
Пры перадруку спасылка на SD абавязковая.
Наклад: 499 паас.
Кошт вольны
Нумар надрукаваны на базе ...
Замова №